*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 51 (1150)** **18 СНЕЖНЯ 2013 г.**

# З Калядамі і Божым Нараджэннем!

## ЗОРКА

Ноч была, як, здаецца, і ўсе
у далінах ссівелых Юдэі:
Стыг пуцінамі пыл пакрысе,
і сляды, і надзённыя дзеі...
Брала моўчкі ў абдымкі сутонь
гліну й камень парогаў... вуголле,
гэн і гэт недагаслы агонь...
студні... ніўкі... пальмовае голле...
Найдаўжэй мо не спаў Віфлеем:
не хапіла вады там сягоння
ні людзям, ні вярблюдам, хай сем
вадаёмаў у месце... І ганіў,
кляў уголас прыбылы народ
доўга ўладу, парадкі, аж сцішыў
сон прысталы Давідавы род:
патанула і места у цішы...

Ды няхай і была, як усе,
гэта ноч, - а ў нябёсных сухвецціях,
як лілея у срэбнай расе,
ззяла зорка, нязнаная ў свеце.
Хто тут бачыў такую калі?
Нат дзяды, цягам год гаратлівых,
час-часом зрок узняўшы з зямлі,
не спасцігні шчэ гэткага дзіва.
А яна зігацела, маўляў
само сонца. Плыла й зігацела,
аж святлом налілася зямля,
хваляваннем дзіўным затрымцела.
Палі пастыры ніцма ў палёх,
пазбіваліся ў гурты авечкі,
ветры й тыя стулілі крыллё -
затрымаліся зорка... і вечнасць...

Бо ў пячоры за мескай сцяной
гэтай ночай
сышліся ўсе згадкі,
ўсе чаканні, жылі што даўно:



Нарадзіла Марыя
Дзіцятка!
О, маленькая светлая ззянь
на трысці ды саломе, Табою
з цемры, з вусцішы чорнай рыззя
свет устаў, свайго шчасця не ўтоіць.
Глянь, сагнулася зло, папаўзло
ў ноч з-пад сэрцаў людскіх, з-пад парогаў,
Нарадзілася!
Зззяе свята!
Слава ж,
слава на ўзвышшах - Богу!

***Наталля Арсеннева.***



## 215 гадоў з дня нараджэння Адама Міцкевіча

Гісторыя еўрапейскай культуры ведае выпадкі, калі за права назваць выдатнага пісьменніка сваім земляком вяліся і вядуцца гарачыя спрэчкі. Гэта датычыцца і месца нараджэння выдатнага паэта-рамантыка XIX ст. Адама Міцкевіча. Адны называюць Навагрудак на Гарадзеншчыне, другія - Завоссе, што ў Баранавіцкім раёне, трэція прытрымліваюцца версіі, што Адам Міцкевіч нарадзіўся ў карчме па дарозе з Завосся ў Навагрудак. Усё ж большасць навукоўцаў лічыць, што геніяльны паэт нарадзіўся ў Завоссі 24 снежня 1798 г.

Бацькі паэта Мікалай і Барбара Міцкевічы належалі да беларускай шляхты. Праўда, бацька займаўся ўжо адвакацкай дзейнасцю, і сям'я жыла ў Навагрудку. Тут і прайшлі дзяцінства і ранняе юнацтва Адама. Прырода, гісторыя, фальклор краю аказалі выключны ўплыў на творчасць паэта. Навагрудак - першая сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Тут зараджалася, набіралася сілы магутная беларуская дзяржава. У самім Навагрудку, у яго ваколіцах захаваліся яшчэ жывыя сляды даўняй гісторыі. Вандроўныя лірнікі на кірмашах усхвалялі ў сваіх песнях патрыятызм і гераізм продкаў у барацьбе супраць чужынцаў. На тых самых кірмашах гучалі і беларускія лірычныя песні. Слуга Міцкевічаў Блажэй меў талент казачніка, і вечарамі Міцкевічавы дзеці з заміраннем сэрца слухалі яго казкі. Чаравала польскімі народнымі песнямі служанка Гансеўская.

На Навагрудчыне жыло шмат сваякоў Міцкевічаў, сяброў Адама па школе і ўніверсітэце. Летам Міцкевічы жылі ў вёсцы. У шляхецкіх сядзібах юнак праводзіў свае летнія канікулы. Тут паэт прымаў удзел у абрадавых святах, далучаўся да песень, легендаў і паданняў краю. Беларускі фальклор жывіў талент пісьменніка, надаваў свежасць і арыгінальнасць яго творам, спрыяў таму, што ў хуткім часе Міцкевіч стаў на роўных побач з найвялікшымі еўрапейскімі паэтамі-рамантыкамі.

Гістарычная Літва (сучасная Беларусь) была, па прызнанні паэта "калыскай яго дум і натхнення". "Літва! Бацькоўскі край..." - такімі словамі пачынаецца яго паэма "Пан Тадэвуш", напісаная ў эміграцыі. Калі Адаму Міцкевічу споўнілася восем гадоў, яго аддалі на вучобу ў дамініканскую школу ў родным горадзе, дзе ён правучыўся дзевяць гадоў. Уражанні ад гэтай школы ў паэта былі дваістыя. З аднаго боку, дамініканская школа дала грунтоўныя веды і заклала асновы бліскучай адукацыі Міцкевіча. З другога - суровы рэжым у гэтай навучальнай установе не мог пакінуць цёплых успамінаў пра гады навучання ў Навагрудку.



Час вучобы паэта ў Віленскім універсітэце - вельмі важны перыяд у жыцці Адама Міцкевіча. Ён трапляе ў цікавае асяроддзе. Выкладчыкі былі людзьмі сапраўднай вучонасці, здольнымі захапіць студэнтаў навукамі, далучыць цікаўную моладзь да каштоўнасцяў сусветнага ўзроўню. Прафесары вызначаліся палкім патрыятызмам і балюча перажывалі паняволенне радзімы, страту ёю дзяржаўнасці. Іх настроі і ідэалы перадаваліся студэнтам, якія таксама выхоўваліся на патрыятычных традыцыях сваіх сем'яў і краю.

У час навучання ў Віленскім універсітэце Адам Міцкевіч быў адным з ініцыятараў стварэння тайнага студэнцкага згуртавання - Таварыства філаматаў ("тых, хто імкнецца да ведаў"), якое адыграла важную ролю не толькі ў жыцці і творчасці паэта, але і ў беларускім нацыянальным Адраджэнні. Праз нейкі час дзеля пашырэння сваіх поглядаў маладыя людзі арганізавалі аддзяленні прамяністых і філарэтаў ("тых, хто любіць дабрачыннасць"). Хоць пасля заканчэння ўніверсітэта паэт быў накіраваны на працу настаўнікам лацінскай мовы ў Коўню, але з Таварыствам меў цесныя стасункі.

У час вучобы ва ўніверсітэце Адам Міцкевіч пачаў пісаць. Найбольш папулярным творам той пары была яго "Ода да маладосці". У першых сваіх літаратурных спробах юнак прытрымліваўся патрабаванняў эстэтыкі класіцызму, але хутка памяняў творчую арыентацыю і стаў паэтам-рамантыкам. Крыніцай яго творчага натхнення былі фальклор і гісторыя Навагрудчыны. У пераходзе Адама Міцкевіча да рамантызму, у яго творчым узлёце асаблівую ролю адыграла каханне да Марылі Верашчакі. Верашчакі - шляхецкі беларускі род. Галоўная іх сядзіба ў часы Міцкевіча знаходзілася ў Туганавічах (цяпер Баранавіцкі раён).

У 1823 г. улады даведаліся пра дзейнасць Таварыства Філаматаў і Філарэтаў. Пачаліся арышты. Быў зняволены і Адам Міцкевіч, які на той час знаходзіўся ў Вільні, бо ўзяў у гімназіі двухгадовы адпачынак і займаўся творчай працай. Гэта быў ужо вядомы паэт, аўтар зборніка рамантычнай паэзіі "Балады і рамансы", пралога да паэмы "Дзяды" і паэмы "Гражына". Прысуд маладым патрыётам быў суровы: большасць з іх, у тым ліку і Міцкевіч, высылалася ў аддаленыя губерні Расейскай імперыі. Тады ён яшчэ не ведаў, што гэта развітанне з Літвою назаўсёды, што ён стане выгнаннікам да канца сваіх дзён.

Такім чынам у аснове светапогляду Адама Міцкевіча ляжыць ліцвінска-беларускі пачатак. І менавіта з гэтага пачатку вырас паэт сусветнага рангу.

*Родны вобразы.*




**Увага**

У студзені 2014 г. у сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" працягвае працаваць гістарычная школа "Гісторыя ў падзеях і малюнках" пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Трусава.**

У снежні заняткі адбудуцца: 6 студзеня (панядзелак), 13 студзеня (панядзелак), 20 студзеня (панядзелак), 27 студзеня (панядзелак).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13. Уваход вольны.

№ 51 (1150) 18 СНЕЖНЯ 2013 г. Наша слова

# Вандроўка па Вільні разам з Максімам Багдановічам

*Ад рэдакцыі.*
*У гэтым годзе споўнілася 100 гадоў, як быў выдадзены адзіны прыжыццёвы зборнік Максіма Багдановіча. З гэтай нагоды ў лістападзе 2013 г. ў Літаратурным музеі М. Багдановіча адбылася Міжнародная канферэнцыя, пра якую мы ўжо паведамлялі раней. Цяпер прапануем вам азнаёміцца з цікавым дакладам Алега Трусава, аднаго з ўдзельнікаў вышэй згаданай канферэнцыі.*

У пачатку XX ст. старадаўняя сталіца Беларусі і ВКЛ Вільня становіцца цэнтрам духоўнага, культурнага і палітычнага жыцця беларусаў. Менавіта тут пачала фармавацца беларуская нацыянальная ідэя, адным з выразнікаў якой і стаў Максім Багдановіч.

Вільня вабіла таленавітых і актыўных асоб не выпадкова. Не толькі старажытныя архітэктурныя помнікі, але і імклівы прагрэс надаваў гораду такое прыцягальнае аблічча. Пасля таго, як у 1860-1862 гг. праз Вільню была пракладзена чыгунка Санкт-Пецярбург-Варшава, горад хутка пачаў расці. У 1893 г. тут з'явілася конка, у 1896 г. - тэлеграф і тэлефон, у 1905 г. на вуліцах Вільні з'явіліся першыя аўтамабілі, а ў 1908 г. - трамваі.

І ў 1911 г., якраз калі горад наведвае Багдановіч, насельніцтва Вільні склала ўжо 186 тысяч чалавек. Нават не гледзячы на часы русіфікацыі цягам XIX ст., перабудову касцёлаў у праваслаўныя цэрквы, закрыццё ў 1832 г. Віленскага ўніверсітэта, горад становіцца для жыхароў былога ВКЛ сімвалам мінулага хараства страчанай дзяржавы. За Вільняй замацоўваецца статус святыні, помніка нацыянальнай культуры ў першую чаргу для гістарычных ліцвінаў, характэрным прадстаўніком якіх быў Адам Міцкевіч - удзельнік польскамоўнага ліцвінскага руху, што працягваўся да канца XIX ст. - пачатку XX ст. З 1883 г. пачалося літоўскае (альбо летувіскае) адраджэнне, калі ва Усходняй Прусіі з'явілася іх першая газета "Auszra". Літоўская інтэлігенцыя таксама пачала прэтэндаваць на Вільню, як на сваю спрадвечную гістарычную сталіцу.

Пачынальнікам жа беларускага адраджэння лічаць Францішка Багушэвіча, які таксама жыў і працаваў у Вільні з 1884 да 1898 г. адвакатам у Акруговым судзе, што мясціўся ў былым палацы Тышкевічаў. Якраз на Віленскі перыяд жыцця прыпадае большая частка літаратурнай дзейнасці Багушэвіча.

Дзякуючы таму, што ў Вільні ў пачатку XX ст. дзейнічаюць разнастайныя беларускія грамадскія арганізацыі, выходзяць беларускія газеты і кнігі, горад становіцца сапраўднай сталіцай для беларускага народа. Менавіта тут беларуская інтэлігенцыя пачынае распрацоўваць беларускую нацыянальную ідэю, для чаго быў распачаты пошук у нашай гісторыі агульнай нацыянальнай калектыўнай ідэі. Поспеху ў гэтым дасягнуў вядомы грамадскі дзеяч і пісьменнік Вацлаў Ластоўскі, які ў 1910 г. у Вільні напісаў і выдаў у друкарні Марціна Кухты асобнай кнігай "Гісторыю Беларусі", як гісторыю самастойнай краіны і народа. Ён першым сфармуляваў палажэнні аб беларускай дзяржаўнасці ў часы Полацкага княства і лічыў ВКЛ менавіта беларускай дзяржавай.

Нямала даведаўся ад Ластоўскага і Багдановіч, калі ў чэрвені 1911 г. прыехаў у Вільню і на дзве ночы застаўся ў рэдакцыі газеты "Наша ніва", што размяшчалася на вуліцы Завальнай, дзе разам яны вялі гутаркі "ад змяркання да світання". Асабліва ўражанне зрабілі на Багдановіча рукапісы старажытных кніг і дакументаў, а таксама слуцкія паясы. Багдановіч цалкам падзяляў погляды Ластоўскага і плённа працаваў на тое, каб беларускую літаратуру можна было вымяраць "еўрапейскай меркай".



З Вільняй звязаў свой лёс і выпускнік 2-ой Віленскай гімназіі Браніслаў Тарашкевіч, якога кіраўніцтва "Нашай нівы" накіравала на вучобу да акадэміка Аляксея Аляксандравіча Шахматава ў Пецярбург з мэтай напісаць першую граматыку сучаснай беларускай мовы. Такім чынам, Тарашкевіч стаў звязаны і з Багдановічам, якога першапачаткова хацелі адправіць вучыцца да Шахматава, але паўночны клімат не дазволіў паэту ехаць у Санкт-Пецярбург.

Наведаўшы Вільню, Багдановіч зрабіў немалы ўнёсак у нашу культуру. Уражаны архітэктурай і гарадской аўрай Вільні ён прысвяціў гораду і яго асобным помнікам некалькі неўміручых вершаў, аб'яднаных у нізцы "Места". Дарэчы цікава, што Багдановіч, які жыў у рускамоўным асяроддзі, ужываў старажытную беларускую назву гарадскога паселішча "места". Гэты тэрмін вядомы з XIII ст., калі нашыя продкі называлі так паселішча гарадскога тыпу, адрознае ад замка. Места - гэта ўся гарадская тэрыторыя разам з замкам (градам) і гарадскімі кварталамі, часта абнесеная абарончым валам, альбо мурамі з абарончымі вежамі, як у гістарычнай забудове Вільні. За гарадскім валам знаходзіліся прадмесці, а жыхароў горада называлі месцічамі. Таму слова "места", якое захавалася ў польскай і літоўскай мовах, варта было б вярнуць і ў сучасную беларускую мову, дзе ёсць блізкае слова "мястэчка".

Надрукаваныя ў зборніку "Вянок" і аб'яднаныя пад агульнай назвай вершы ўрбаністычнага характару прысвячаюцца Вільні і яе духу. Але паэт яшчэ не аднойчы вернецца да апісання горада і ў сваіх іншых вершах, згадаўшы, напрыклад, унікальны помнік позняй готыкі касцёл св. Ганны, вежу-званіцу з гадзіннікамі на плошчы Гедыміна, вельмі старажытную Медніцкую вежу-браму з размешчаным наверсе гербам ВКЛ "Пагоняй" (пазней вежа стала называцца Вострай брамай).

Разгледзім гісторыю гэтых старажытных помнікаў архітэктуры больш падрабязна.

Фундатарам будаўніцтва касцёла св. Ганны быў Вялікі князь Аляксандр у 1495-1500-х гг. Потым гаспадары змяняліся, пакуль з 1581 г. тут не запанавалі бернардынцы. Пасля вялікага пажару будынак у 1574-1582 гг. быў капітальна адрамантаваны ў стылі позняй беларускай готыкі. Менавіта тады і з'явіліся ўнікальныя зорчатыя скляпенні ў інтэр'ерах касцёла, аб'ём якога мае памеры 19х8,7 м. На прыгажосць і адметнасць пабудовы ўказвае і добра вядомая многім гістарычная легенда пра тое, як у 1812 г. на гэты помнік беларускага дойлідства звярнуў увагу імператар Французаў Напалеон, які, пасля ўзяцця горада, нібы сказаў у захапленні ад прыгажосці храма наступнае: "Калі б я мог паставіць гэты касцёл на далонь, я перанёс бы яго ў Парыж". Багдановіч жа ў вершы "Касцёл св. Анны ў Вільні" раіў прыйсці да будынка, "каб залячыць у сэрцы раны, забыць пра долі цяжкі глум".



У XIX і пачатку XX ст. адбылася апошняя рэстаўрацыя касцёла, і Багдановіч пабачыў яго ў тым выглядзе, у якім той захаваўся да нашых дзён. У другой палове XX ст. гэтаму помніку прысвяцілі шматлікія публікацыі як літоўскія, так і беларускія даследчыкі. Сярод такіх даследчыкаў можна адзначыць Альге Янкявічэне з яе кнігай на літоўскай мове "Ансамбль готыкі Вільні", выдадзенай у Вільні ў 1981 г. Сп. Альге ў свой час надрукавала і ў беларускім часопісе "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі" цудоўны артыкул пра беларускую готыку, які вельмі не спадабаўся мясцовым цемрашалам. "Якая готыка можа быць у "лапцюжнікаў"-беларусаў?" - абураліся яны і пісалі лісты-скаргі ў адпаведныя інстанцыі. Літоўцы ў свой час заснавалі цудоўную серыю брашурак, прысвечаных шэдэўрам мясцовай архітэктуры. Я набыў у Вільні ў 80-ых гг. мінулага стагоддзя шмат гэтых выданняў і прывёз у выдавецтва "Полымя", прапанаваўшы заснаваць падобную серыю ў Беларусі. Рэдакцыя пагадзілася і ў 1989 г. выйшла першае выданне. У 1990 г. я выдаў у межах гэтай серыі кніжачку пра Лідскі замак "Старадаўнія муроў адраджэнне. Мінулае і сучаснасць Лідскага замка" накладам 20 тысяч асобнікаў.

Пра славутую вежу-званіцу каля Кафедральнага сабора паэт пісаў у вершы "Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!" так: "І на вежы, як круглае вока савы, цыферблат - пільны сведка мінулых учынкаў". І, сапраўды, вежа вельмі старажытная, асабліва яе ніжняя акруглая частка. Калі ж у 1786-1801 гг. слынны беларускі дойлід, прафесар Віленскага ўніверсітэта Лаўрэн Гуцэвіч перабудаваў галоўны сабор Вільні ў стылі класіцызму, то і вежа набыла пэўныя відазмяненні - трохпавярховую васьміграную надбудову. Самы верхні паверх з кожнага боку аздобілі гадзіннікамі, што і ўразіла Багдановіча.

І ўсё ж адным з самых вядомых і найпрыгажэйшых вершаў паэта з'яўляецца "Пагоня", прысвечаная Вострай браме - знакамітаму помніку Вільні (асаблівую вядомасць якому сярод беларусаў і прынёс твор Багдановіча) і размешчанай наверсе будынка выяве герба ВКЛ.

Вострая брама была пабудавана ў 1503-1514 гг., як частка гарадскіх умацаванняў, і, паколькі кантралявала дарогу на Меднікі (ці Медзінінкай), спачатку атрымала назву Медніцкай брамы. Дарэчы, Медніцкі гасцінец - гэта старажытная дарога з Вільні да Менска. А ўжо ў другой палове XVI ст. вежу-браму перабудавалі ў стылі позняй готыкі і маньерызму, але захаваліся круглыя гарматныя байніцы. Тады ж фасад і быў аздоблены гербам ВКЛ "Пагоняй". На старажытных планах памер пабудовы пазначаўся 11,2х10,2 м. За брамай пачыналася паўднёвае прадмесце Вільні, якое называлася Востры канец і таму з 1556 г. назву змянілі на Вострую браму. У 1711-1712 гг. з боку горада да вежы-брамы прыбудавалі мураваную капліцу, дзе знаходзіцца абраз цудатворнай Божай маці Вастрабрамскай, шырока вядомай як у Літве, так у Польшчы і Беларусі.

Багдановіч у сваіх вершах даў апісанне не толькі помнікаў Вільні, але і яе жыхароў, цэлых вуліц і дворыкаў, што дазваляе назваць яго паэтычным летапісцам тагачаснага жыцця віленчукоў. У якасці прыкладу можна прыгадаць вершы: "На глухіх вулках - ноч глухая", "У Вільні", "Ад спёкі пышуць дахі і асфальт" і іншыя. Дарэчы, у Менску асфальт з'явіўся толькі ў 30-ыя гады XX ст., што чарговы раз указвае на прагрэсіўнасць і адметнасць Вільні пачатку XX ст. Гэтую адметнасць і рамантызаваў Багдановіч, дзякуючы якому яна стала для беларускай паэзіі сімвалам "вечнага горада, беларускай Мекай".

Пра Вільню таксама пісалі Якуб Колас і Янка Купала, Наталля Арсеннева і Алаіза Пашкевіч, Максім Гарэцкі і Уладзімір Жылка, Уладзімір Караткевіч і Сяргей Панізнік, Адам Глобус і многія, многія іншыя. Таму ў экспазіцыі музея Максіма Багдановіча помнікам архітэктуры нашай старажытнай сталіцы, безумоўна, трэба надаць належнае месца.

***Алег Трусаў,***
***кандыдат гістарычных навук.***




***На здымках:*** кніга Альге Янкявічэне"Ансамбль готыкі Вільні" з выявай касцёла Св. Ганны на вокладцы; панарама Вільні з Вострай брамай на пярэднім плане; плошча Гедыміна.




# Ангела Эспіноса - інспанка, якая вывучае ў Гранадзе славянскую філалогію

Дзяўчына год таму ўзялася самастойна вывучаць беларускую мову і нядаўна завяла адмысловы блог "Іншаземка, якая піша па-беларуску".

Днямі яна апублікавала там пост "10 добрых прычын, каб размаўляць па-беларуску", паведамляе Generation.by.

10. Мова - скарб. Трэба захоўваць і берагчы кожную мову. Кожныя 14 дзён на Зямлі памірае адна мова, па статыстыцы ЮНЕСКА.

9. У беларускай мове маецца шмат архаізмаў, структур і функцый, якіх няма ў іншых славянскіх мовах. Унікальная літара "ў". Яна таксама дапамагае лепш разумець этымалогію і граматыку іншых моў (паверце мне, я вывучаю славянскія мовы ўжо 5 гадоў).

8. Беларуская літаратура проста цудоўная (Купала, Багдановіч, Колас, Быкаў... І па-мойму ў вашай сям'і Цётка лепш, чым Бацька).

7. Праз мову можна шмат цікавага даведацца пра культуру нацыі і атрымаць доступ да фальклору.

6. Па-беларуску граюць выдатную музыку. Асабліва рок. Спяваць весялей, калі разумееш тэкст. І ўсе любяць спяваць, нават калі толькі ў душы.

5. Сродкі масавай інфармацыі на беларускай мове пакажуць табе іншы пункт гледжання на многае.



4. Хай і гэта не большасць, ёсць людзі, якія адчуваюць сябе больш камфортна, калі гавораць па-беларуску, і ты зможаш быць бліжэй да іх.

3. На беларускай можна захоўваць больш таямніц, чым на іншых больш папулярных мовах.

2. Беларуская мова вельмі, вельмі, вельмі эратычная.

1. Калі нейкая іспанка можа, значыць, і ты можаш! Ці ты баязлівец?

*Generation.by.*

# Беларусі - адзіную дзяржаўную мову

У Беларусі ва ў сіх сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця наша родная мова мэтанакіравана выціскаецца з ужытку і трымаецца толькі на энтузіязме людзей свядома адданых служэнню сваёй Айчыне, якія з'яўляюцца сапраўднымі патрыётамі сваёй шматпакутнай Бацькаўшчыны.

Выцясненне роднай мовы пачалося пасля правядзення ў 1995 годзе ганебнага для нас, беларусаў, рэферэндума, калі ў Беларусі рускай мове быў нададзены статус другой дзяржаўнай мовы. У выніку гэтага у гарадах Беларусі былі ліквідаваны беларускамоўныя школы і садкі, а беларуская мова ў рускамоўных школах пачала выкладацца на ўзроўні замежнай мовы. Такі ж працэс паглядваецца і ў сельскай мясцовасці краіны.

Сёння многія маладыя людзі, якія закончылі рускамоўныя школы, амаль не валодаюць сваёй роднай беларускай мовай. І самае страшнае тое, што ў бліжэйшы час для развіцця беларускай мовы не відаць прасвету, бо выкладанне ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах вядзецца на рускай мове.

Сёння, іншым разам, складана размаўляць з моладдзю па-беларуску.

Прывяду толькі адзін прыклад такой размовы.

У жніўні 2013 года, зайшоўшы ў будынак жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 2 (ЖЭС-2) горада Салігорска, я звярнуўся да маладой жанчыны, апрацоўшчыцы камунальных заявак, і сказаў ёй:

- Калі ласка, прыміце маю заяўку. У двары на дзіцячай пляцоўцы неабходна адрамантаваць лаўку, замяніць на спінцы лаўкі зламаную дошку.

Жанчына моўчкі ўтаропілася ў мяне, не зразумеўшы да канца, што я ад яе хачу.

Складуюшуся сітуацыю разрадзіла пажылая масцярыца ЖЭС-2, якая якраз знаходзілася побач. Яна перавяла маю заяўку на рускую мову.

І такіх прыкладаў можна прывесці мноства. Дык да чаго ж мы дажыліся, браткі-беларусы?

У Салігорску ў эксплуатацыю ўводзіцца вялікая колькасць прыватных сацыяльна-грамадскіх аб'ектаў - крамаў, маркетаў, гандлёва-забаўляльных цэнтраў, аптэк і г.д., у якіх уся вонкавая знешняя і ўнутраная, інфармацыя падаецца толькі на рускай мове, а то і на англійскай.

На вуліцах Салігорска зрэдку можна сустрэць, беларускае слова. А на Доме Саветаў вісіць шыльда на якой назвы Салігорскіх уладных структур - райвыканкама і райсавета выкананы толькі на рускай мове. Такога не назіралася нават у савецкі час, калі назвы дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў на шыльдах былі выкананы на дзвюх мовах беларускай і рускай.

Салігорскімі актывістамі, сябрамі Салігорскай гарадской арганізацыі імя Францішка Скарыны, старшыня Мікола Шаравар, і з удзелам аўтара гэтых радкоў у 2013 годзе ў Салігоскі райвыканкам было накіравана 7 заяў з прапановамі па прывядзенні ў горадзе Салігорску вонкавай інфармацыі ў адпаведнасць з патрабаваннем артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусі і Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", згодна з якімі беларускае слова павінна быць паўсюдна на першым месцы.

Але, як кажуць, воз і дагэтуль там. З боку Салігорскага райвыканкама кантроль за выкананнем моўнага заканадаўства не наладжаны і на сённяшні дзень адсутнічае. Раённае кіраўніцтва абмежавалася толькі адпіскамі на нашыя заявы, вынятка адной з якіх прыводзіцца ніжэй:

*"Салігорскі раённы выканаўчы камітэт... згодна артыкула 2 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" у нашай краіне забяспечваецца ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.*

*Згодна артыкула 31 вышэй названага закону афіцыйныя назвы дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і саманіравання, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў даюцца на беларускай і (або) рускай мовах.*

*Старшыня - А. Б. Рымашэўскі".*

Каб наша родная мова займела рабочы, а не дэкаратыўны, статус нам ужо сёння неабходна пачаць акцыю па зборы подпісаў за адраджэнне у Беларусі адзінай дзяржаўнай мовы - беларускай. Час новага этапу нацыянальнага Адраджэння не за гарамі.

Зберагчы і захаваць нашу спадчыну і яе нацыянальны здабытак, аснову нацыі і дзяржавы - родную мову, наш патрыятычны абавязак.

Жыве Беларусь!

***Уладзімір Масакоўскі,***
*г. Салігорск.*

# "Творцы з гомельскай зямлі"

Кнігу з такой назвай мне падаравалі на юбілеі славутага выдавецтва "Чатыры чвэрці", які адбыўся 6 снежня 2013 года. Яе напісаў вядомы рэжысёр і акцёр Мікола Макарцоў, які памёр у 2012 годзе.

У кнізе прадстаўлены партрэты творцаў, імёны якіх вядомы не толькі на Гомельшчыне, але і ва ўсёй краіне: Юры Васілеўскі, Фёдар Іваноў, Валянціна Пранішнікава, Ігар Шошын, Мікола Котаў, Валянцін Краўцоў, Юры Мінін, Лілея Зорына, Таццяна Курбатава, Вадзім Юрлоў, Уладзіслаў Карака, Юры Фейгін, Ада Кузьмянкова, Пётр Біжуноў, Мікалай Манец, Пятро Фей, Яўгенія Канькова, Ірына Данілава, Мікалай Ліпаў, Мікалай Кухарэнка, Валянцін Пакаташкін, Алесь Фядотаў, Сафія Шах, Ізяслаў Катляроў... Гэта - рэжысёры, акцёры, дырыжоры, хормайстры, мастакі, паэты, балетмайстры, музыкі, народныя майстры...

Артыкулы пісаліся паводле аўтарскіх радыёперадач у апошнія гады жыцця.

Кніга мае наклад 300 асобнікаў. Яна будзе карысна не толькі для творчых людзей, але і для тых чытачоў якія неабыякавыя да айчыннай культуры! Кніга мае добрыя фотаздымкі. Яе цікава чытаць.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*краязнавец, гісторык.*




# Прыказкі-блізняты

"Ядро і сок мовы" - такую ацэнку прыказкам даў Саламон Рысінскі. Ён быў першым збіральнікам беларускіх прыказак. Яго "Зборнік прыказак" упершыню пабачыў свет у 1618 годзе ў Любчы (Навагрдскі раён), пасля неаднаразова перавыдаваўся (1620, 1621, 1629). Як лічыць даследчык гэтага помніка Я.І. Парэцкі, каля 500 прыказак з 1800 зафіксаваных у зборніку захаваліся ў Беларусі і цяпер. Збіральнік некалькі дзесяцігоддзяў запісваў устойлівыя, узнаўляльныя народныя выказы на землях, тэрытарыяльна адпаведных сучаснай Беларусі. А нарадзіўся ён у вёсцы Рысін на Полаччыне (прыблізна ў 60-я гады XVI ст.).

Прыказкі, вядомыя яму або пачутыя на землях нашых продкаў, С. Рысінскі друкаваў у зборніку па-польску, а тлумачыў на лацінскай мове. Таму, натуральна, вельмі многія з гэтых народных выказаў сёння фіксуюцца як у беларускіх, так і ў польскіх прыказкавых даведніках. У шматлікіх выпадках не магчыма адназначна выявіць, канкрэтна ў якой мове (беларускай або польскай) пачынала сваё жыццё тая ці іншая прыказка. Як пісаў Я. Карскі, "хто мог бы, напрыклад, падумаць, што прыказка *"Ласкавае цяля дзвюх матак ссе"* знаходзіць для сябе паралель у візантыйскай грэчаскай прыказцы *"To kalon armin duo mannas budzanei"*, дзе выступае ягня, і, значыць, міжнароднага паходжання.

Супастаўляючы прыказкі, змешчаныя ў зборніку С. Рысінскага і зафіксаваныя ў беларускіх і польскіх парэміяграфічных слоўніках, можна вылучыць некалькі груп.

1. Прыказкі, скалькаваныя з іншых моў. Так, у беларускай мове прыказка *Груган гругану вока не выдзеўбе* існуе і ў такіх разнавіднасцях: *Крумкач крумкачу вока не выдзеўбе, Воран ворану вока не выклюе.* Параўнаем у польскай мове: *Kruk krukovi oka nie wykole (nie wydziobie).* У абедзвюх мовах гэтая прыказка - калька з лацінскай мовы: *Corvus okulum corvi non cruet.* Аналагічным шляхам прыйшла ў абедзве мовы, напрыклад, і прыказка *Што галава, то і розум (Co glova, to rozum).*

2. Прыказкі, якія ў беларускай мове з'яўляюцца запазычаннем або паўкалькай з польскай мовы. *Панскае вока каня тучыць* (абазначае 'ласкавае слова, добрыя адносіны да каго-небудзь дапамагаюць у справе') - запазычанне з польскай мовы. А гэта - паўкалькі: *Спяваць дарма - баліць гарла* ('справа не вартая патрачаных сіл, часу і пад.'); *Шляхціц на сваім гародзе ровен ваяводзе* ('у сваім доме, у сваёй гаспадарцы чалавек паводзіць сябе незалежна'); *Што задужа, то не здорова* ('залішняе, празмернае не ідзе на карысць').

3. Прыказкі, якія склаліся ў беларускай мове не без польскага ўплыву: *Без працы не будзеш есці калачы* (гаворыцца як павучанне працавіць) створана пад уплывам польскай прыказкі *Bez pracy nie ma kolacy.* Яшчэ прыказкі: *Бяла не бяла, абы ваду відала; Дзе фэст, там і я ест; Злазь з даху і не псуй гонту; Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў злоце; Пайшоў па попел, а чорт ухопіў.*

Найбольшую ж групу складаюць прыказкі аднолькавага ці амаль аднолькавага гучання ў абедзвюх мовах; калі некаторыя з гэтых прыказак ёсць у суседніх мовах (украінскай ці рускай), дык яны адрозніваюцца кампанентным складам. Няма хоць бы нязначных падстаў, каб сцвярджаць, што пэўная прыказка стала ўжывацца раней у беларускай мове, чым у польскай, або - наадварот. Такія парэміі ўмоўна можна назваць прыказкамі-блізнятамі. Між іншым, калі звярнуцца да "Гістарычнай лексікалогіі беларускай мовы" (Мінск, 1970, с. 73), то тут многія агульныя для беларускай і польскай моў словы (да прыкладу: *альбо, бачыць, гук, крок, падлога, трэба, троху, хіба*) кваліфікуюць як "ўласнабеларускую лексіку", з чым, аднак, наўрад ці можна пагадзіцца.

Вось некаторыя прыказкі-блізняты: *Быў конь, ды з'ездзіўся - Byl kon, ale sie zjezdzil; Госць у дом, бог у дом - Gosc w dom, Bog w dom; Згода будуе, а нязгода руйнуе - Zgoda buduje, niezgoda rujnuje; Купіў не купіў, а патаргавацца можна - Kupil nie kupil, potargowac тozna; На бязлюддзі і поп чалавек - Na bezludziu i pop czlowiek; Не вучы рыбу плаваць - Nie ucz ryby plawac; Няма роду без выроду - Nie ma rodu bez wyrodu; Свая сярмяжка не цяжка - Swoja siermiezka nie ciezka; Хто спіць, той не грашыць - Kto spi, ten nie grzeszy; Чужая рана не баліць - Cudza rana nie boli; Чым хата багата, тым і рада - Czym chata bogata,tym rada.*

Асобныя прыказкі - двухзначныя. Напрыклад, *З вялікай хмары малы дождж (Z wielkiej chmury maly deszcz)* у абедзвюх мовах ужываецца як у прамым значэнні (у дачыненні да хмары і дажджу), так і ў пераносным 'якая-небудзь гучная напачатку, шумная справа часам завяршаецца нікчэмнымі вынікамі'. Зрэшты, прыметнікавыя кампаненты гэтай прыказкі рэалізуюць квазісемантычныя значэнні: "з вялікай (хмары)" абазначае 'значнай па велічыні і памерах', а "малы (дождж) - 'слабы, кароткі, непрацяглы'.

*Усё можна, толькі (ды) асцярожна (Wszystko тozna, byle z ostrozna)* - кантэкстуальная прыказка, выкарыстоўваецца толькі ў дыялагічным маўленні і выступае як рэакцыя на слова *можна* ці *няможна* ў папярэднім выказванні.

Ёсць і яшчэ шэраг беларускіх прыказак, аднолькавых з адпаведнымі польскімі: *Жыву як гарох пры дарозе - хто ідзе, той і скубе; Надзея - матка дурных; На пахілае дрэва козы скачуць; Скупы два разы траціць; Што край, то і абычай; Што праўда, то не грэх.*

Амаль усе яны, як і прыказкі папярэдніх груп, фіксуюцца і ў зборніку С. Рысінскага.

**Іван Лепешаў.**

# Пісьменнік Іван Кандрацьеў - наш зямляк

Беларусы - таленавіты народ, які раскідвае свае таленты па свеце і забывае іх збіраць. Хоць даўно ўжо наспеў той час, калі трэба збіраць іх у сваю грамаду. Усе ведаюць аповесць А. Пушкіна "Дуброўскі", якую вывучалі ў школе. А ці ведаюць нават настаўнікі літаратуры, што А.С. Пушкін сумеў спісаць вобраз Дуброўскага з натуры. Гэта быў збяднелы беларускі шляхціц з мястэчка Раванічы Ігуменскага (цяпер Чэрвенскага раёна) Павел Астроўскі, які нарадзіўся там у 1810 годзе, удзельнік паўстання 1830-1831 гадоў у Беларусі. Паэт Пушкін сустрэў Астроўскага ў Пскоўскім астрозе. І што цікава, Астроўскі ўцёк з астрога і недзе знік. Яго не знайшлі, а пасля і шукаць перасталі. І звярніце ўвагу, як са звычайнага беларускага паўстанца, Аляксандр Сяргеевіч напісаў цікавы вобраз бунтара, які кахае суседскую паненку. І такім чынам Пушкіну ўдалося абмануць цэнзуру і расказаць пра беларускага паўстанца.



Іван Кандрацьеў

А цяпер пра рускага пісьменніка Івана Кандрацьева (1849 - 1904), які жыў і пісаў у Маскве. А нарадзіўся ён у вёсцы Каловічы, што каля Вілейкі. Па бацьку ён Казіміравіч, але запісалі Кузьміч. Іван Казіміравіч - паэт-песеннік, гісторык, драматург, краязнавец. А чаму мы пра яго нічога не ведаем? Справа ў тым, што яго творы не заўсёды ўпісваліся ў афіцыйную ідэалогію бальшавікоў, а таму і забыліся пра яго. Нагадаю, што я ў 1957 годзе закончыў сярэднюю школу і нічога не ведаў пра паэта Сяргея Ясеніна. Пра яго на ўроках не гаварылі, а кнігі не друкаваліся.

Вось цяпер і творы Івана Кандрацьева ў Расіі вяртаюцца з забыцця. А нам у беларускую літаратуру вяртае Івана Кандрацьева яго зямляк-аднавясковец Аляксандр Іванавіч Смолік, беларускі гісторык, доктар культуралогіі. Сёлета ён выдаў кнігу " Божы дар Іван Кандрацьева" (Мінск, БДУКМ, 2013). Кніга немалая - 260 старонак. У ёй аўтар распявадае пра творчую спадчыну і жыццёвы лёс свайго земляка, які быў славуты і вядомы ў другой палове XIX стагоддзя ў Расіі. Як піша ў прадмове да гэтай кнігі Б.У. Святлоў (міністр культуры Рэспублікі Беларусь): *"Шлях да кнігі быў доўгі і складаны. Аўтар шукаў матэрыял у архівах, бібліятэках, кнігарнях, букіністычных крамах, але знайсці звесткі пра літаратара з Віленшчыны не ўдавалася… Толькі ў літоўскіх архівах і Віленскай бібліятэцы пашанцавала натрапіць на асобныя звесткі аб пачатку творчай дзейнасці пісьменніка. Творы, што складаюць літаратурную спадчыну І.К. Кандрацьева, у асноўным сканцэнтраваны ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы, якая стала на працяглы час рабочым кабінетам А. І. Смоліка".*

Кніга пра Кандрацьева складаецца з дзвюх частак: "На роднай глебе", "Масква". Другая частка ў шэсць разоў большая за першую. У першай расказваецца пра паходжанне і юнацтва Івана Кандрацьева і пачатак яго літаратурная творчасці ў Вільні. Даведацца аўтару пра бацькоў паэта не ўдалося. Паколькі хлопец трапіў у школу кантаністаў у Смаленску ў 1856 годзе, то можна здагадвацца, што Іван Кандрацьеў быў сынам адстаўнога салдата і селяніна. У той час школа кантаністаў - гэта вайсковая школа для хлопчыкаў з 7 гадоў. З гэтай школы Іван праз 2 гады трапіў у фельчарскую школу пры Санкт-Пецярбурскай медыкахірургічнай акадэміі. Аднак закончыць і яе чамусьці хлопцу не ўдалося, магчыма, на адукацыю патрэбны былі грошы, якіх яго бацькі не мелі. У другой палове 1860-х гадоў Іван Кандрацьеў служыў у канцылярыі Віленскай вучэбнай акругі. У Вільні ён і пачаў займацца літаратурнай дзейнасцю. Друкаваў вершы, а пасля і невялікія жартоўныя п'есы ў газеце "Виленский вестникъ". Свой першы верш "Вильня 22-го октября 1868 г.", напісаны з нагоды асвячэння Прачысценскай царквы, адноўленай з руін, ён змясціў у названай газеце. Праз нейкі час Іван Кандрацьеў пакінуў службу ў канцылярыі і стаў акцёрам, потым памочнікам рэжысёра Рускага тэатра ў Вільні. Першыя вершы, напісаныя ў Вільні, у якіх праслаўляецца праваслаўе не зусім дасканалыя. А. Смолік знаходзіць у кнігах земляка і такія вершы, якія напісаны пад уплывам беларускага фальклору. Такой з'яўляецца песня "Литвинка", музыку для якой напісаў Г. Залатарэнка.

Лічу неабходным пазнаёміць беларускіх чытачоў з гэтай песняй.

*Раным-рано*
*на широкий Нёман*
*За водой литвинка выходила.*
*Постояла, рученьки сложа,*
*И, печальная,*
*к нему заговорила:*
*"Ой ты, Нёман, Нёман,*
*Чёрный да суровый!*
*Где литвин мой храбрый,*
*Статный, чернобровый?*
*По весне отъехал*
*Он с княжной дружиной,*
*С длинной, острой пикой*
*И с трубою длинной!"*

*Раным-рано*
*расшумелся Нёман:*
*На волну волна*
*бурливо набегала,*
*Пену белую рвала, кружила,*
*И, играючи,*
*литвинке отвечала:*
*"Не грусти, девчина,*
*Смертию героя*
*Пал твой ратник любый*
*Сред полей и боя!*
*Крестоносец смелый*
*Прискакал в дружину:*
*Проколол он сердце*
*Твоему литвину!"*

*Раным-рано*
*всколыхнулся Нёман,*
*Руки белые ломаючи, рыдая,*
*Словно камень,*
*сорванный с утёса,*
*В Нёман кинулась*
*литвинка молодая.*

Мне здаецца, што сюжэт гэтай балады не прыдуманы аўтарам, а ўзяты з беларускага фальклору - з легенды або з лірычнай песні. Іван Кандрацьеў у раскрыцці вобраза ліцвінкі мае папярэдніка ў асобе Адама Міцкевіча. І калі ўважліва разгледзець лексіку і рытміку песні-балады "Литвинка", дык нельга не звярнуць увагу, што ў ёй сустракаюцца беларусізмы (ці ліцвінізмы), а таму яна лёгка перакладаецца на беларускую мову.

А. Смолік адзначае, што Іван Кандрацьеў - паэтпесенік, які абагаціў рускую культуру сваімі песнямі. Такім чынам, можна прадоўжыць яго думку далей. Беларусы ўвайшлі ў рускую культуру не толькі са сваімі кампазітарамі (Казлоўскі, Глінка, Шастаковіч, Шклоўскі, Прыгожы), а і са сваімі паэтамі: Кандрацьеў, Твардоўскі. У свой час песні на вершы І. Кандрацьева былі вельмі папулярныя. Нагадаю некаторыя з іх: рамансы "Очаровательные глазки", "Эти очи - чёрные очи", вядомая песня "По диким степям Забайкалья…". У кнізе даецца адвольны пераклад яе на беларускую мову Вітаўта Мартыненкі "Бадзяга". Паэтычныя творы І. К. Кандрацьева склалі два зборнікі вершаў "Думы и были", "Под шум дубрав".

Іван Кандрацьеў таксама вядомы як празаік-раманіст. Ён напісаў некалькі гістарычных твораў: раманы "Гунны", "Драма на Лубянке", "Церковная крамольница", "Роскольничьи гнёзда", "Трифон-сокольник", аповесці "Салтычиха", "Лютая година", "Ермак, завоеватель Сибири" і даведнік "Седая старина Москвы". Усе гэтыя гістарычныя творы выклікаюць цікавасць і ў сучаснага чытача.

"Аб прызнанні драматычных вартасцей п'ес І.К. Кандрацьева сведчыць не толькі перамога на конкурсе, але і яго прынадлежнасць да "Таварыства рускіх драматычных пісьменнікаў і оперных кампазітараў", якое было заснавана ў 1874 г. Аляксандрам Астроўскім - стваральнікам рускай драмы", - піша А. І. Смолік. У 1870-1880 гг. Кандрацьеў напісаў некалькі п'ес: "В лесу", "Воевода Волчий Хвост", "Разлучница", "Соколу лес не диво", "Легко отделался" і іншыя.




Сярод шматлікіх твораў Кандрацьева вылучаюцца яго творы для дзяцей. Яго апавяданні і іншыя жанры для дзяцей увайшлі ў асобны зборнік "Залатая струна", надрукаваны ў 1891 г. Стварыў ён яшчэ некалькі кніг для дзяцей, у якія, апрача сваіх твораў, змясціў творы вядомых у той час пісьменнікаў. Гэта складзеныя і надрукаваныя ім кнігі: "Полный самоучитель русской азбуки в зоологических картинках", "Искра Божая", "Дома и на воздухе". У апошняй кнізе сабраны ўсе вядомыя на той час гульні і забавы для дзяцей. У кнізе "Искра Божая" даюцца звесткі дзецям аб праваслаўі, гісторыі, геаграфі, прыродзе. Усё там напісана цікава.

З 1870-х гадоў Кандрацьеў жыў у Маскве і быў сакратаром маскоўскіх перыядычных выданняў. На маскоўскі перыяд адносіцца роскквіт яго творчасці. Сябрамі Івана Кандрацьева ў Маскве былі вядомыя класікі рускай літаратуры і выяўленчага мастацтва: А. Астроўскі, І. Белавусаў, І. Левітан, А. Саўрасаў, І. Сурыкаў, М. Успенскі і іншыя.




Эскіз мемарыяльнай дошкі Івану Кандрацьеву




Свята ў Вілейцы

Загінуў Кандрацьеў трагічна. Быў паранены і памёр у бальніцы 1 чэрвеня 1904 г. Яму тады было каля 55 гадоў. Пахаваны быў у Маскве на могілках, але тыя могілкі пры савецкай уладзе ператварылі ў парк.

Кніга А. Смоліка пра свайго земляка напісана ў навуковым стылі. Аўтар выкарыстоўвае дакументы і кнігі Кандрацьева, даследуючы з іх факты. Жыццё Івана Кандрацьева паказваецца ў той гістарычнай атмасферы і ў тым культурным асяродку, у якім яму давялося жыць і пісаць свае творы. Апрача таго даецца характарыстыка асобных твораў Івана Кандрацьева. У кнізе друкуюцца некаторыя вершы, песні, п'есы і ўрыўкі з празаічных твораў пісьменніка, якія змешчаны ў раздзеле "З сачыненняў І. К. Кандрацьева" (у кнізе яны на 162 -258 старонках). Даецца ў кнізе спіс выкарыстаных крыніц і бібліяграфія.

Кніга выдадзена невялікім накладам 200 асобнікаў і разлічана на інтэлігенцыю. Але яна напісана вобразна і займальна, а таму спадабаецца шырокаму колу чытачоў.

А. Смолік шмат робіць па вяртанні творчай спадчыны І. Кандрацьева на Бацькаўшчыну. 25 траўня 2013 г. у Вілейцы прайшлі Кандрацьеўскія чытанні. Дзеля іх выпушчаны навуковы зборнік "Талент, непадуладны часу". У наступным годзе Кандрацьеўскія чытанні пройдуць у Вільні, а затым праз год і ў Маскве. Сёлета ў в. Каловічы мела быць ўстаноўлены памятная дошка з надпісам, што вёска Каловічы - радзіма рускага пісьменніка І. Кандрацьева. У Расіі творы Кандрацьева перавыдаюцца. Настаў час і ў Беларусі выдаць некаторыя творы гэтага пісьменніка на беларускай мове. Пара вяртаць таленты на Радзіму.

**Сымон Барыс.**

# Шчыра дзякуем за дапамогу!

Старшыні Федэрацыі
прафсаюзаў Беларусі
Сп. Л. П. Козіку
220126, Мінск
пр. Пераможцаў, 21

**СПРАВАЗДАЧА**

На падставе дагавора дабрачыннай (спонсарскай) дапамогі, заключанага на падставе рашэння выканкама Савета федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ад 28.10.2013 № 419, Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" атрымала ад Федэрацыі Прафсаюзаў Беларусі грашовыя сродкі ў памеры 1950000 (адзін мільён дзевяцьсот пяцьдзясят тысяч) беларускіх рублёў.

У адпаведнасці з пунктам 3 дагавора грашовыя сродкі былі выкарыстаныя на падпіску шэрагу цэнтральных раённых бібліятэк краіны, музеяў, гімназій горада Менска, а таксама ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" на беларускамоўныя перыядычныя выданні Рэспублікі Беларусь. У дадатку №1 да справаздачы абазначаны суб'екты падпіскі і грашовыя сумы.

Да справаздачы дадаюцца копіі плацёжных дакументаў на дзвюх старонках.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў.

**Дадатак да справаздачы ад 28.10.2013 № 1**

| № | Суб'ект падпіскі | Т эрмін падпіскі | Сума |
|---|---|---|---|
| 1 | ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" | шэсць месяцаў | 881466 бел.руб. |
| 2 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Ляхавічы | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 3 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Петрыкаў | тры месяцы | 18387 бел.руб. |
| 4 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Бялынічы | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 5 | Хоцімскі гістарычна-краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 6 | Нацыянальны гістарычны музей Беларусі | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 7 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Дуброўна | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 8 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Клічаў | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 9 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Глуск | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 10 | Клічаўскі краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 11 | Жодзінскі краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 12 | Бібліятэка УА МДЛУ (г. Менск) | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 13 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Маларыта | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 14 | Цэнтральная раённая бібліятэка г. Мсціслаў | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 15 | Гімназія № 9 г. Менска | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 16 | СШ № 190 г. Менска | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 17 | СШ № 14 г. Баранавічы | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 18 | СШ № 68 г. Менска | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 19 | СШ № 60 г. Менска | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 20 | Мсціслаўскі гістарычна-археалагічны музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 21 | Гімназія № 4 г. Менска | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 22 | Гімназія № 23 г. Менска | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 23 | Гімназія № 14 г. Менска | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 24 | Петрыкаўскі раённы краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 25 | Тураўскі краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 26 | Шумілінскі гістарычна-краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 27 | Жабінскі гістарычна-краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 28 | Ганцавіцкі краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 29 | Нац. гіст.-культурны музей-запаведнік г. Нясвіж | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 30 | Ельскі краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |
| 31 | Калінкавіцкі дзяржаўны краязнаўчы музей | шэсць месяцаў | 36774 бел.руб. |

Агульная сума падпіскі: 1966299 бел. руб.
З іх 1950000 - сродкі ФПБ, а 16299 - сродкі ТБМ.
Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.

# Гарадзенскі краязнаўчы каляндар

Пабачыў свет пяты выпуск Гарадзенскага абласнога краязнаўчага календара. Укладальнік прафесар Аляксей Пяткевіч, старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ.

У календары пададзена каля паўтысячы важных і цікавых датаў з гісторыі Гарадзеншчыны, што яшчэ раз пацвярджае яе багацце і напоўненасць падзеямі і асобамі праз гады і стагоддзі.

Каляндары на 2010-2013 гады мелі значны поспех і выклікалі вялікую зацікаўленасць на Гарадзеншчыне, у Менску і ў іншых мясцінах, што і з'явілася асноўным стымулам для выдання календара на 2014 год.

Новы каляндар з'яўляецца пэўным крокам у развіцці гарадзенскага краязнаўства, паколькі нацэльвае краязнаўцаў з Гародні і рэгіёнаў на працу па пэўных датах і з пэўнымі людзьмі, якія адзначаны ў календары.

***Наш кар.***

БЕЛАРУСКІ
НАСТОЛЬНЫ ПЕРАКІДНЫ
КРАЯЗНАЎЧЫ
КАЛЯНДАР

НА 2014 ГОД

(на матэрыяле Гродзеншчыны)

*Складальнік А. Пяткевіч*
*Рэдактар С. Суднік*

Гродна 2013

# Помнік паўстанцам 1863 года з'явіўся ў вёсцы Слабодка Астравецкага раёна

150-ю гадавіну паўстання Кастуся Каліноўскага беларусы ўшаноўвалі цягам усяго 2013 года. Мерапрыемствы, канферэнцыі і прэзентацыі кніг, прысвечаныя гэтаму слаўнаму юбілею, прайшлі ў Беларусі, Літве, Польшчы.

Ідэі, словы паўстанцаў луналі цягам года ў паветры ды натхнялі на годныя ўчынкі. Таму абсалютна лагічна, што сярод беларусаў нарадзілася грамадская ініцыятыва ўшанаваць памяць касінераў, усталяваўшы помнік. Так, у вёсцы Слабодка Астравецкага раёна паўстаў гранітны помнік у выглядзе мяча, уваткнутага ў зямлю. Помнік прысвечаны паўстанцам 1863 года і зроблены выключна на прыватныя сродкі.

- У гэтай работы шмат прачытанняў, - пракаментаваў скульптурную выяву яе аўтар Ігар Засімовіч. - У першую чаргу гэта, канешне, ушанаванне памяці тых, хто загінуў у паўстанні. Тым больш, што спрадвеку свой меч ваяры выкарыстоўвалі яшчэ і як крыж: на яго жагналіся, ім праводзілі загінулых у апошні шлях. Па-другое, гэта нашая, нашчадкаў, бязмерная ўдзячнасць за адвагу, з якой нашыя продкі з косамі ў руках ішлі на царскія пушкі. Два крыжы (каталіцкі і праваслаўны) на рукаятцы мяча маюць агульную перакладзіну - гэта сімвал адзінства хрысціян нашай краіны, якія заўсёды разам - плячо да пляча - змагаліся за яе свабоду. А надпіс на лязе мяча: "Каго любіш? - Беларусь! - То ўзаемна…" - гэта пароль, якім касінеры абменьваліся паміж сабой.

Меч, усталяваны на пагорку, стаўся маўклівым годным напамінам нашчадкам пра ўсіх, хто загінуў за Радзіму. Цяпер ідзе праца па стварэнні інфраструктуры, і ўжо праз некаторы час вёска Слабодка будзе радая вітаць як замежных турыстаў, так і беларусаў на гэтым знакавым для кожнага з нас месцы.

***Еўрарадыё.***

# *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўныя сябры, ідзе падпіска на першае паўгоддзе 2014 года. У каталогу інфармацыя пра газету знаходзіцца на ст. 71. Цана змянілася нязначна. У 2014 годзе мы спадзяёмся выходзіць на васьмі палосах. Газета мае добры рэдакцыйны партфель і плануе для друку тэксты самых розных матэрыялаў, з рознымі поглядамі і падыходамі, у тым ліку і адрознымі ад пазіцыі рэдакцыі. Мы будзем працягваць друк моваznаўчых і гістарычных матэрыялаў у выкладанні тых аўтараў, якія вы не знойдзеце на старонках іншых выданняў. Мы не стараемся навязваць чытачу сваю думку ці погляды, а падаём паведамленні і меркаванні нашых чытачоў. Чытайце, даведвайцеся, думайце. Будзьце з намі, і вы будзеце з усёй Беларуссю.

РП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

Колькасць камплектаў **1**

На 2014 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі **33600** руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2014 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

